

**Весткі й Паведамленьні**

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 5(687)**
**Травень 2023 г.**

# Чарнобыльскі мітынг у Нью-Ёрку

У сераду, 26 красавіка 2023 году, перад будынкам штаб-кватэры Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў на Мангэтане ў Нью-Ёрку прайшоў мітынг, прысьвечаны 37-й гадавіне Чарнобыльскай катастрофы. Мітынгі на Дзень Чарнобыля традыцыйна ладзяцца Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем "Пагоня" як выказ салідарнасьці й падтрымкі для беларусаў, якія пацярпелі ад Чарнобыльскай аварыі і дасюль вымушаныя жыць зь яе наступствамі. Але гэтым разам нагода для імпрэзы была яшчэ больш драматычнай, бо дзеля антынацыянальнай палітыкі рэжыму Лукашэнкі да тэматыкі Дня Чарнобылю далучыўся новы кампанэнт – пратэст супраць разьмешчаньня расейскай нуклеарнай зброі ў Беларусі. Тая абыякавасьць і раўнадушнасьць, якую праяўлялі ўлады Беларусі, дасягнула цяпер свайго апагею. Пачынаючы ад замоўчваньня сапраўднай сытуацыі ў забруджаных радыяцыяй раёнах, заспакойваючы грамадзтва, калі насамрэч ёсьць усе падставы непакоіцца пра здароўе насельніцтва, і будуючы Астравецкую атамную станцыю – патэнцыйную крыніцу новай радыяцыйнай небясьпекі ды ўзмацненьня энэргазалежнасьці ад Расеі, рэжым Лукашэнкі выказваў пагарду да грамадзкай апініі й дабрабыту народу. Але цяпер сытуацыя выйшла на прынцыпова новы ўзровень – атамны шантаж Пуціна і садзеяньне яму цяперашніх уладаў Беларусі прывялі да таго, што стварылася пагроза нуклеарнага армагедону ўжо на тэрыторыі Беларусі, і гэта мусіць стаць клопатам усіх беларусаў, еусіх краінаў усіх урадаў сьвету, ААН і ўсіх людзей добрай волі.

Напачатку мітынгу перад прысутнымі выступіў старшыня Згуртаваньня "Пагоня" сп. Віталь Зайка. Ён распавёў пра мэты мітынгу і нагадаў прысутным асноўную інфармацыю пра падзеі 37-гадовай даўніны, калі ў выніку некантраляванага разагрэву актыўнай зоны энэргаблёку на Чарнобыльскай атамнай станцыі адбыўся выбух і пашкоджаньне рэактару. Пачаўся пажар, у выніку якога радыяактыўныя хмары панесьлі нукліды на поўнач, у Беларусь, дзе яны пачалі выпадаць на паверхню зямлі. Больш за чвэрць абшару Беларусі тады было забруджана радыёактыўнымі ападкамі. На землях, дзе ўзровень радыяцыі значна перавышаў санітарныя нормы, апынулася больш за 2 мільёны беларускіх людзей, 25% усяго насельніцтва Беларусі. Тым ня менш, савецкія ўлады ў першыя дні й тыдні пасьля катастрофы ўсяляк замоўчвалі яе памер, не даводзілі да насельніцтва меры, якія маглі б абараніць здароўе людзей.

Ужо пасьля некалькі соцень тысяч чалавек з радыяцыйнай зоны былі прымусова пераселеныя на новыя месцы пражываньня. Камуністычнае марыянэткавае кіраўніцтва БССР не адстойвала здароўе і жыцьцё свайго насельніцтва перад камуністычнымі ўладамі ў Маскве. Шмат людзей атрымалі праменевую хваробу, што натаваліся інакш, як сасудзістыя захворваньні, захворваньні шчытападобнай залозы.

Калі Беларусь стала незалежнай, былі зробленыя крокі да палепшаньня становішча насельніцтва ў забруджаных рэгіёнах. Рэгулярна публікаваліся мапы забруджаньня, забясьпечваліся ільготы ліквідатарам і пацярпелым, перасяленцам, аказвалася дапамога. Але калі да ўлады прыйшоў А. Лукашэнка, праўда пра сытуацыю ў чарнобыльскай зоне Беларусі стала хавацца. Неўзабаве ільготы й выплаты былі адмененыя. Лукашэнка штогод стаў рабіць сабе піар з наведваньня зоны забруджаньня, выступаючы з заявамі пра тое, што, маўляў, праблемы няма. Што ўсё бясьпечна і нармалёва, і там можна спакойна жыць і працаваць. А калі хто, як навуковец Юры Бандажэўскі, аспрэчваў такую афіцыйную пазыцыю – рэжым перасьледваў і кідаў за краты, паказваючы, што можа здарыцца з тымі, хто хоча ведаць сапраўдны стан рэчаў у чарнобыльскай зоне і на забруджаных тэрыторыях. На сёньняшні дзень на забруджаных землях

*заканчэньне на бачыне 2*



# Сымптаматычныя зьявы



У так званых "дэмсмі" апошнім часам рэфрэнам гучыць: "у яго ўсе агенты", "у яго ўсе агенты", "усе агенты..." і г. д. (Некаторыя паўтараюць тое бесьперапынна, як папугаі). Так выяўляецца чарговы сыстэмны плян прапагандысцкай гібрыднай вайны супраць маёй асобы. Дагэтуль за ўвесь час супраць мяне выпрабаваныя дзясяткі ідыёцкіх наклеек (ад "нямецкага паліцая" да "паліцічэскава трупа"). Бачны характэрны ўзровень, на якім усё тое вядзецца.

Нядаўна я быў у Вільні разам са спадаром Усавым. Офісная агентура "штабіка" паляцела да прадстаўнікоў правячай партыі Летувы і пачала іх палохаць, што едзе Пазьняк, які хоча адабраць Вільню, маўляў, толькі што ён па відэа гэта сказаў.

Прадстаўнікі правячай партыі напалохаліся і ўхіліліся ад спатканьня з намі. (Праўда, з адным зь іх мы спаткаліся, але ён быў таксама спалоханы.)

У гэты ж дзень мы ўбачылі ў Сеціве, як спадар Лябедзька (ён жа "Раймон") "бяседуе" з прадстаўніком правячай партыі ўлады. Дзіўныя, скажу вам, паводзіны. З палітычнага гледзішча дык наадварот дэпутатам трэба б было спаткацца са мною і спытаць, ці праўда гэта. І гумар тут не пашкодзіў бы.

Адразу ж зьявіліся цяжкасьці з выкарыстаньнем залі ў Доме афіцэраў, якая была раней замоўленая для нас на сустрэчу зь беларускай грамадзкасьцю. Прышлося здымаць іншую залю.

У прыродзе гэта называецца "дробныя пакасьці". Але бяруцца яны не з надвор'я, а з прыроды прарасейскай агентуры, якая ў гэты ж час (ва ўнісон зь віленскім "Раймонам") азвалася ва Ўкраіне. Тут зьявіліся адмысловыя відэа, дзе заангажаваныя асобы, якія паняцьця ня маюць ні пра Вялікае Княства Літоўскае, ні пра Вільню, ні пра гісторыю Рэчы Паспалітай, ні, зрэшты, пра маю дзейнасьць, тым ня менш "сокрушаются", што, аказваецца, Пазьняк ("заслугі каторова мы не атрыцаем") хоча адабраць Вільню ад Летувы і (быццам бы) кажа, што "літоўскай нацыі не існуе" і т. п. Пры тым усё гэтае глупства скампанаванае па мэтаду тыповай прымітыўнай прапаганды: адна асоба выказвае шкадаваньне (дае пас іншай асобе), што, маўляў, Пазьняк хоча забраць Вільню, а напарнік прымае пас, нібыта абураецца і амаль гадзіну палівае брудам Пазьняка ды гаворыць бздуры на самым нізкім узроўні, разьлічаныя на цемнату.

Гаварыльшчыкі прыдумваюць і гавораць пра "казаньні", якія прыпісваюць мне, склейваюць іх і палохаюць абавацеляў чалавекам (гэта значыць мною), які некалі, у 1990-м, спыніў правакацыю Масквы супраць Летувы па нібыта забору Вільні ў склад БССР (але адкуль тое гаварыльшчыкам ведаць). Выглядае, што працуе сетка ад Вільні да Кіева з адгалінаваньнямі на Варшаву.

З гэтага мушу адзначыць дзьве сэнтэнцыі.

**Першая.** Цяперашняя летувісцкая кансэрватыўная ўлада, набраная з маладых кансэрватараў, якая дэманструе антыбеларускую палітыку і гэтым шкодзіць самой сабе і сваёй краіне, гэтая ўлада доўга не пратрымаецца. У Летуве ёсьць больш сталыя і разумнейшыя сілы, якія прыдуць на зьмену недасьведчаным.

**Другая.** Прарасейская агентура ва Ўкраіне пазнаецца па мэтадычнай і сыстэмнай прапагандзе ахайваньня беларусаў і па стварэньні нянавісьці ўкраінцаў да беларускага народу ў той час, калі акупаваны цяпер беларускі народ якраз зьяўляецца саюзьнікам украінцаў, і гэтую саюзьніцкую настроенасьць беларусаў трэба замацоўваць у інтарэсах Украіны. Агентура ж, едучы на ўкраінскім патрыятызме, робіць усё наадварот — тое што патрэбна Маскве (сутыкнуць два народы, каб лягчэй было зь імі распраўіцца).

Цяпер ідзе вайна, і не да ўсяго даходзяць рукі, але прыйдзе час, і ўкраінцы разьбяруцца з чужароднай агентурай, як бы яна ні дэманстравала свой штучны патрыятызм.

У заключэньне прапаную чытачам (хто ня бачыў) паглядзець маё відэаінтэрвію, на якое па-ашуканцку спасылаюцца выканаўцы прапаганды, і ў якім якраз гаворыцца пра старажытную нашую сталіцу Вільню:

*https://www.youtube.com/watch?v=Dlx4jE9Wvlk*

(Кавалак паміж 51: 26 — 1:11:29).

*6 красавік 2023 г.*

**Зянон ПАЗЬНЯК**

# Чарнобыльскі мітынг

*заканчэньне з бачыны 1*

жывуць прыблізна 12% насельніцтва Беларусі.

Калі пад прыкрыцьцём прапагандысцкіх размоваў пра падтрымку "энерганезалежнасьці" рэжым пачаў будаваць АЭС у Астравецкім раёне, не было шырокага абмеркаваньня, і пратэсты грамадзкасьці гамаваліся й ігнараваліся. Той факт, што абсталяваньне й эксплюатацыю АЭС будуць забясьпечваць расейскія фірмы, паказвае на паглыбленьне, а не ліквідацыю энэргазалежнасьці ад Расеі.

Але ўсё гэта цяпер адыходзіць на другі плян, бо ў Беларусі разьмяшчаюцца нуклеарныя ракеты Расеі, якія ўводзяцца як інструмэнт атамнага шантажу Эўразьвязу, краінаў НАТО і ўсяго Заходняга сьвету. Беларусь, што фактычна стала ў 2022 годзе акупаванай краінай пасьля ўводу расейскіх войскаў, якія распачалі зь беларускай тэрыторыі агрэсіўную несправядлівую вайну. Пуцін і Лукашэнка цепер паставілі пад пагрозу самое існаваньне беларускага народу, і аб гэтым трэба гучна і адкрыта заяўляць па ўсім сьвеце ўсім урадам і арганізацыям.

Таму прадстаўнікі беларускай грамады ў Амэрыцы выйшлі на пляцоўку перад штаб-кватэрай ААН, каб заявіць свой пратэст супраць разьмешчаньня расейскіх нуклеарных ракетаў і бомбаў у Беларусі, супраць антынацыянальнай палітыкі рэжыму Лукашэнкі, супраць расейскай акупацыі Беларусі. Яны таксама выказалі салідарнасьць з пацярпелымі ад Чарнобыльскай катастрофы і выказалі свой пратэст супраць палітыкі Лукашэнкі ў адносінах да свайго народу і ў адносінах да захопніцкай расейскай вайны ва Ўкраіне.

Удзельнікі мітынгу трымалі плякаты. На якіх было напісана: "НЕ – расейскай атамнай зброі ў Беларусі!", "Расея – вон зь Беларусі!", "НЕ – новай нуклеарнай пагрозе". Яны скандавалі лёзунгі: "НЕ – расейскай атамнай зброі!" "НЕ – расейскай акупацыі!" "Спынім новы Чарнобыль у Беларусі!", "Беларусь – ТАК! Лукашэнка – НЕ!", "Жыве Беларусь!" Луналі нацыянальныя бел-чырвона-белыя сьцягі. Мінакам раздаваліся ўлёткі пра трагічную гадавіну Чарнобылю і пра мэты мітынгу.

**Віталь ЗАЙКА**

## Беларусь – Амэрыка: лёсы землякоў

# Янка Юхнавец (1921-2004), паэт і мастак

Янка Юхнавец, беларускі паэт, празаік, драмутург, а таксама мастак і скульптар, (карыстаў псэўдонімы Я. Юхна, К. Юхневіч, Я. Ю.) нарадзіўся 3 лістапада 1921 году ў вёсцы Забродак каля Бягомлю (цяпер Докшыцкі раён Віцебскай вобласьці) у сялянскай сям'і. Перад Другой сусьветнай вайной будучы пісьменьнік скончыў сярэднюю школу. Падчас вайны Бягомельшчына стала арэнаю інтэнсіўных партызанскіх і супрацьпартызанскіх дзеяньняў, якія трагічна адбіваліся на мясцовым насельніцтве. Бацькі Юхнаўца і пяцёра малодшых братоў былі спаленыя карнікамі, а сам Янка Юхнавец быў арыштаваны службаю СД і вывезены летам 1944 году ў Нямеччыну. Пасьля вайны Юхнавец вырашыў не вяртацца на Бацькаўшчыну і стаў "перамешчанай асобай" ДП у Нямеччыне. Ён жыў у лягерах для перамешчаных асобаў у Рэгенсбургу, Міхэльсдорфе і Розэнгайме ў 1945-1949 гадох. Юхнавец скончыў Беларускую гімназію імя Янкі Купалы ў Міхельсдорфе-Віндышбэргердорфе.



Юхнавец цікавіўся заходнеэўрапэйскай літаратурай і сам пачаў пісаць вершы. Ягоныя першыя творы былі надрукаваныя ў 1947 годзе ў часапісе "Шыпшына". Юхнавец працягваў вучыцца і ў 1949 годзе скончыў Вольны ўнівэрсытэт у Мюнхэне па спэцыяльнасьці заходнеэўрапэйскае права. У тым жа годзе ён пераехаў у ЗША. Ён далучыўсая да беларускай грамады і належаў да такіх арганізацыяў як Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА), Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва (БІНіМ), а таксама да Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (БАПЦ). Юхнавец публікаваўся ў выданьнях "Шыпшына" і "Сакавік" у Нямеччыне", у "Конаднях" (ЗША) і ў "Баявой Ускалосі" (Канада). У 1955 годзе ў Нью-Ёрку выйшла кніга паэзіі "Шорах Моўкнасьці", што стала праграмнай, задала кірунак на наступныя гады. Затым былі "Новая элегі" (1964), "Калюмбы" (1967), "Дань майго часу" (1993), "Урачыстасьць у садзе. Драматычныя начыркі" (1996).

Першыя творы Янкі Юхнаўца былі насьцярожана прынятыя ягонымі калегамі – беларускімі літаратарамі замежжа. Засяроджваючы сваю творчасьць на нутраной індывідуальнай свабодзе, на асабістым выбары й асабістай адказнасьці, Юхнавец тэматычна адрозьніваўся ад распаўсюджаных у той час матываў настальгіі, патрыятычнай ангажаванасьці і грамадзкай актыўнасьці, што былі характэрныя для беларускіх паэтаў-эмігрантаў. Таксама ў пляне формы ўжываны Юхнаўцом верлібр, хоць і ўведзены ўжо раней у беларускую літаратуру Максімам Багдановічам, успрымаўся чытачамі й крытыкамі хутчэй як экзатычная, непрыдатная для шырэйшага ўжытку цікавостка. Таксама не былі прыярытэтныя для творчасьці Юхнаўца клясычная выкшталцонасьць формы і празрыстасьць сэнсаў. Лічыцца, што на Юхнаўца зрабілі вялікі ўплыў, акрамя Купалы і Багдановіча, яшчэ і Эзра Паўнд, Эдгар По, Уолт Ўытмэн і Т. С. Эліёт. Па свабоднай і адкрытай да інтэрпрэтацыяў форме крытыкі лічаць паэтычныя творы Янкі Юхнаўца блізкімі да паэзіі Алеся Разанава. Значную ролю ў паэзіі Юхнаўца адыграе беларускі фальклёр і філязофскія матывы.

Таксама варта адзначыць мову Юхнаўца, што стала адметным элемэнтам ягонага стылю. У сваёй творчасьці Юхнавец актыўна ўжываў дыялектызмы сваіх родных мясьцінаў і стварыў свой адмысловы творчы слоўнік. Крытык і паэт Ян Чыквін лічыў, што Юхнавец па форме й зьмесьце быў папярэднікам амэрыканскіх паэтаў "бітнікаў", а гісторык літаратуры Арнольд Макмілін уважае яго за сапраўднага паэтаавангардыста, бадай адзінага сярод прадстаўнікоў свайго пакаленьня. Зборнікі паэзіі Янкі Юхнаўца выходзілі ў Беларусі ў 1994 і 2012 гадох.

Таксама важнаю часткаю спадчыны Юхнаўца зьяўляюцца проза і драматычныя творы. Яны, як і ягоная паэзія, нясуць моцны адбітак стылістыкі й моўных інавацыяў аўтара, якога крытыкі ўважаюць прадстаўніком "падакупацыйнай" ваеннай прозы, якая набывае апакаліптычнае гучаньне, але цалкам незалежная ад савецкай традыцыі літаратуры пра вайну. На 100-годзьдзе Янкі Юхнаўца выйшла кніга ягонай прозы, апавяданьняў і дзёньнікавых запісаў пад рэдакцыяй Лявона Юрэвіча і Натальлі Гардзіенкі, якія шмат зрабілі для папулярызацыі творчасьці пісьменьніка.

Жывапісныя і скульптурныя творы Янкі Юхнаўца менш вядомыя на Бацькаўшчыне і яшчэ чакаюць уважлівай дасьледчай працы. Таксама застаецца невыдадзеным яшчэ шэраг твораў Юхнаўца.

Янка Юхнавец памёр 6 студзеня 2004 году, і неўзабаве Фундацыя Крэчаўскага заснавала Літаратурную прэмію імя Янкі Юхнаўца для спрыяньня разьвіцьцю літаратуры на чужыне.

**Віталь ЗАЙКА**

# Жэрдкі ў плоце

Эўропа была адзіным кантынэнтам, які распачаў няроўную барацьбу з глябальным пацяпленьнем, і трэба прызнаць, што ў гэтай барацьбе перамог.

Месяц таму назад, у сакавіку, давялося быць у Грузіі, тэмпература каля +20 градусаў (нават у гарах), а Грузія, як вядома, не ў Эўрасаюзе.

Затое ў Польшчы тэмпература значна паніжаная на пару, а часам на некалькі градусаў. Усё гэта дзякуючы разумнай, пасьлядоўнай і, перш за ўсё, мудрай палітыцы Эўрасаюза. Тэмпературы ў красавіку і траўні на стабільным узроўні +10 градусаў – гэта, трэба прызнаць, зусім немалое дасягненьне.

Рэспэкт ЕС.

**Віталь ВОРАНАЎ**




## Шаноўнае спадарства!

Нагадваем, што **31 траўня 2023 году** скончыцца тэрмін дасылкі твораў для друку ў сёлетнім выпуску

**альманаха беларускіх пісьменьнікаў замежжа**

**“БЕЛАРУС”**.

Надрукаваць свае творы ў альманаху могуць усе, хто піша па-беларуску і жыве па-за межамі Беларусі. Калі Вы спрабуеце свае сілы ў прыгожым пісьменстве, то не прапусьціце магчымасьць пазнаёміць са сваёю творчасьцю шырэйшае грамадзтва праз друк у альманаху.

Падрабязьней пра ўмовы друку ў штогадовіку можаце пазнаёміцца на сайце **e-krama.com**

На гэтым жа сайце Вы можаце замовіць папярэднія нумары гэтага літаратурна-мастацкага выданьня, а таксама зрабіць ахвяраваньне на выданьне наступнага нумару.

Імёны ахвярадаўцаў будуць пададзеныя ва ўступным артыкуле, і ўсе яны атрымаюць новы нумар аднымі з найпершых адразу пасьля выхаду ў сьвет восеньню бягучага году. Аплату на сайце можна зрабіць праз сыстэму *Paypal*, крэдытнаю ці банкаўскаю карткаю. Дасылка па ўсяму сьвету.

Замовы і ахвяраваньні таксама можна дасылаць поштаю на адрас:

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

Чэкі ці грашовыя пераказы выпісвайце на імя выдаўца **Marat Klakotski**.

З пытаньнямі зьвяртайцеся на емэйл адрас ***zamova@e-krama.com***

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Складкі й ахвяраваньні:**

А. Вільбік ................80

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня”** ***Viktar Yedzinovich.***

Аб імпрэзах, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, а таксама пра важныя бягучыя падзеі ў жыцьці арганізацыі можна даведацца наведаўшы старонку “Пагоні” ў Фэйсбуку:
***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

Шаноўныя сябры Згуртаваньня “Пагоня”, калі ласка, сваечасова аплочвайце сяброўскія складкі й падпіску на інфармацыйны бюлетэнь ***“Весткі й Паведамленьні”.*** *(інфармацыю пра стан падпіскі глядзіце на канвэрце справа ад прозьвішча).*

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні* :**

А. Вільбік .................30
В. Лапыш .................30

**Усім шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні”* ***Viktar Yedzinovich.***